# Тыднёвік Магілёўскі

№ 7 (7)
2.05.97


## Калі Бог з намі, то хто супраць нас?

Упершыню ў Магілёве быў афіцыйна забаронены традыцыйны "Чарнобыльскі шлях". Нягледзячы на гэта дэмакратычныя сілы Магілёва адзначылі гэты жалобны дзень у найноўшай гісторыі Беларусі.

Адносна невялікая калона дэманстрантаў, якая на гэты раз найменш за ўсё думала пра палітычныя лозунгі свайго шэсця, у гэты дзень не магла не праявіць сваіх грамадзянскіх пачуццяў.

Наперадзе калоны ўдзельнікі шэсця неслі драўляны Крыж з мэтай устанаўлення яго на крутым беразе колішняй Дубравенкі, адкуль, па некаторых гістарычных звестках, пачаўся наш горад. Крыж устанавілі не пад прамовы, а пад хвалюючую і светлую цішыню. Аднак не паспелі, як кажуць, адыйсці ад мемарыяльнага месца, як "людзі ў цывільным" зламалі Крыж і раскідалі яго рэшткі па беразе рачулкі.

Але ж перад усім гэтым удзельнікі Чарнобыльскага Шляху дэманстравалі ў цэнтры горада пад спакойнае стаўленне да шэсця сіл аховы парадку. Першую спробу спыніць "недазволенае мерапрыемства" зрабіў палкоўнік Баранаў на падыходзе калоны да плошчы Леніна. Ён пры гэтым спасылаўся, вядома, на прэзідэнцкі дэкрэт. Дэманстранты вымушаны былі, каб патраліць да царквы, абыйсці плошчу. Каля царквы яны пастаялі некалькі хвілінаў з запаленымі свечкамі. А на прыступках будынку лялечнага тэатра, дзе ўдзельнікі шэсця намерваліся правесці кароткі мітынг, адбылася яшчэ адна сутычка з міліцыянтамі, якія ледзь не арыштавалі аднаго з лідэраў Шляху Валадара Цурпанава. Толькі намаганнямі паплечнікаў яго ўдалося "адбіць" ад чэпкіх міліцэйскіх рук. Пасля гэтых эпізодаў дэманстранты і былі на беразе Дубравенкі, а адтуль гарадскім транспартам пераехалі на скрыжаванне вуліцы Габраўскай і праспекта Шмідта.

У гэтым месцы сваю акцыю-пікет ладзілі актывісты магілёўскага камітэта "Дзеці Чарнобыля". Удзельнікі шэсця і пікетанты разам рушылі да "лаўсанаўскіх" могілак, дзе на ўзвышшы было намечана ўстанавіць яшчэ адзін Крыж. Зрабіць гэта не ўдалося, бо "невядомыя" з таго ж ведамства, што і папярэднія "людзі ў цывільным", скралі Крыж яшчэ да пачатку пікета.

На месцы, дзе планавалася ўстанавіць Крыж, удзельнікі Чарнобыльскага Шляху пасадзілі дрэўца, да якога паклалі каменны валун і вянок з бел-чырвона-белай стужкай.

Ці то таму, што дзея адбывалася далёка ад цэнтру, ці таму, што ў ганаровай варце каля месца пасадкі дрэва з кветкамі ў руках сталі дзеці дашкольнага ўзросту, ладна збітыя хлопцы ў скураных куртках не сталі перашкаджаць імправізаванаму мітынгу. Выступоўцы на ім выказвалі надзею, што прыйдзе час, калі ў Магілёве святыя Крыжы паўстануць у самых адметных месцах як сымбалі свабоднай краіны, як знакі памяці бязвінных ахвяраў нацыянальнага і чарнобыльскага генацыду.

У той жа час удзельнікі мітынгу асудзілі вар'яцкія паводзіны тых, што зламалі адзін Крыж і скралі другі. Выступоўцы, а сярод іх былі хрысціянскія вернікі, нагадалі, што боская адказнасць за такія ўчынкі будзе праследаваць сатаністаў аж да дзесятага пакалення. Не было, праўда, бачна, каб гэтых "людзей у цывільным" хоць неяк засмуціла такое папярэджанне. Ды і то сказаць: яны служаць зусім іншаму богу.

**Дэніс НОВІКАЎ.**

**Дадатак.** У дапаўненне рэпартажу мусім паведаміць апошнія звесткі вакол "Чарнобыльскага Шляху", якія сталі вядомымі рэдакцыі ў вечар падпісання газеты ў свет.

Аднаму з арганізатараў шэсця В.Цурпанаву "спакойная" міліцыя выпісала позву на 30 красавіка. Не выключана, што па дэкрэту № 5 яму пагражае адказнасць ці ў выглядзе вялікага штрафу, ці нават у "сутачнай" адсідцы.

А што тычыцца Крыжа, які знік з месца захавання, стала вядомым, што яго па загаду "адпаведных" органаў Кастрычніцкага раёна распілавалі і выкінулі.











# ...І прыйшоў да высновы, што светам кіруюць жанчыны

*Шчыра кажучы, даўно ўжо мне не даводзілася сустракацца з чалавекам такога адкрытага сэрца. Спачатку гэта нават насцярожыла. А потым зразумела: гэта ягоны прынцып і ягоная сутнасць, якая не дапускае прыхаваных думак.*

*"Мой комплекс у тым, што я не хачу быць, як усе", — часта згадвае мой субяседнік. Але, на маю думку, гэта сведчыць хутчэй аб тым, што комплексаў у яго няма. Гавораць, што ён несумненны лідэр і таленавіты арганізатар. (Яго стыхія — агонь, як у гараскопе (ён —Авен), так і ў жыцці). Прыродная ўпартасць і набыты максімалізм, а таксама імкненне чымсьці выдзеліцца, часам і шкодзяць яму. Але не спыняюць.*

*Скончыўшы з адной чацвёркай школу, ён прамарудзіў з паступленнем у інстытут і "прынцыпова" павёз дакументы ў 14-ю тэхнічную вучэльню. Але там выдатніка "спужаліся". І ў рэшце рэшт ён скончыў Магілёўскі палітэхнікум з "чырвоным дыпломам".*

*Грамадскай актыўнасці таксама было не займаць — камсамольскі актывіст у школе, апантаны прыхільнік камуністычных ідэй. У арміі ледзь не ўступіў у партыю. Але меў мужнасць аднойчы адказаць за свой вельмі далёкі ад крымінальнага ўчынак, і на партыйным шляху быў пастаўлены крыж. І вось тады пакрысе пачалі ачышчацца ружовыя акуляры. Відаць, час прадставіць майго суразмоўцу: Валадар Цурпанаў, новы кіраўнік магілёўскай гарадской філіі БНФ. А ў міру, як гаворыцца, рабочы завода жалезабетонных вырабаў.*



**— Знаёмства звычайна пачынаецца з імя. Як здарылася, што Вы з Уладзіміра ператварыліся ў Валадара?**

— Для маіх сяброў гэта сталася раптам, але я выношваў гэтую ідэю здаўна. Справа ў тым, што я сябе ўсведамляю і называю ліцвінам. А ў беларускім імённіку Ластоўскага згадваюцца варыяцыі імя ў залежнасці ад таго, які статус мае чалавек. Што тычыцца мужчыны, то па гэтаму майму імені можна вызначыць, што чалавек мае дзяцей. У мяне дзве дачкі. А калі я буду мець ўнукаў, — спадзяюся, што дажыву да гэтага, — мяне будуць мусіць называць Валодша.

**— А знешні выгляд? Даўгія валасы і залатая завушніца не зусім аўтэнтычны выгляд для лідэра з рабочага асяроддзя...**

— Таксама з-за пачуцця пратэсту (смяецца). Я адрошчваю валасы ўжо паўтара гады, хаця думаць аб гэтым пачаў значна раней. А ўвогуле гэта звязана з вонкавымі варункамі палітычнага развіцця ў дзяржаве. Мяне не зусім задавальняла становішча ў руху, асабліва тое, што ў нас мала моладзі. А калі ў Менску загучаў "Белы легіён", аб'яднаўшы радыкальна-патрыятычную моладзь, я задумаўся аб тым, чаму б і нам не стварыць нешта падобнае. І вось падчас фестывалю "Магутны Божа" гэтая ідэя пачала набываць практычны сэнс. Была створана маладзёжная арганізацыя "Патрыёты Бацькаўшчыны. Рух у Еўропу". А паколькі па ўзросце я там быў самы старэйшы, то і ўзначаліў гэтую ініцыятыву. Валасы тут прыгадаліся дарэчы... Пра завушніцу я задумаўся крышачку пазней, бо да такіх валасоў трэба было і яшчэ што-небудзь прыдбаць. Дарэчы, як чырвоная ануча для быка, так і мой знешні выгляд для нашых міліцыянтаў...

**— Растлумачце мне такі феномен. Чалавек нараджаецца, выхоўваецца, сталее амаль у такіх жа ўмовах, што і 90% яго равеснікаў. Але ж, у адрозненне ад іх, пачынае ўсюды і заўсёды размаўляць на беларускай мове...**

— Я вучыўся ў вясковай школе, дзе выкладанне ішло на беларускай мове. А з 5-га класа пачаўся так званы "добраахвотны" пераход на рускую мову. Але я ізноў з-за пачуцця пратэсту працягваў карыстацца на ўроках беларускай мовай. Узнікненне Беларускага Народнага Фронту яшчэ больш дапамагло мне ў нацыянальнай свядомасці. І я канчаткова перайшоў на родную мову. Адлігі ў тым, праўда, былі. Але ж мова, як бачыце, усё перамагла. Тым больш пры цяперашняй лідэрскай пасадзе.

Я 5 гадоў запар збіраў дакументы ў машынабудаўнічы інстытут. Сёлета я іх туды занёс, бо ў адпаведнасці з правіламі мог паступіць без іспытаў. Але мне сказалі, што мой "чырвоны" дыплом не такі ўжо і вартасны, бо атрыманы ў тэхнікуме на базе 8 класаў. Давялося здаваць дадатковы іспыт пры ўмове "на выдатна". Гэтага зрабіць не здолеў. І не асабліва шкадую, бо задумваюся цяпер аб юрыдычнай адукацыі. Для палітыкі, з якой я цяпер цесна звязаны, гэта найлепшая, на мой погляд, адукацыя. Яна дасць магчымасць працаваць на Бацькаўшчыну на новым узроўні.

**— Вось вам цытата: "Любовь к родине разделяет народы, питает национальную ненависть и подчас одевает землю в траур". П.Чаадаев.**

— Я не зусім з гэтым згодны. Любоў да радзімы не можа быць прычынай усяго, пра што тут згадваецца. Гэта можа адбывацца, калі нехта тваёй любові да радзімы моцна перашкаджае. А наогул усё залежыць ад людзей, іх адукаванасці і цывілізаванасці.

**— Каму і чаму аддаеце Вы жыццёвыя прыярытэты?**

— Галоўны прыярытэт — жанчына. Гэта зыходзіць з таго, што я ўвогуле зычліва стаўлюся да ўсіх людзей, а паколькі жанчына — гэта маці, то яна для мяне найвялікшая святыня. Кажуць, што светам кіруюць грошы, палітыкі і жанчыны. З апошнім сцверджаннем я згодны. Ну з на другім месцы ў маіх прыярытэтах — я сам, усведамленне сябе і сваёй асобы. Увесь час імкнуся не быць шэрым і падобным на масу. Часцей за ўсё, як сведчаць мае сябры, праяўляю гэта ў альтруізме, бо найвялікшая для мяне радасць зрабіць што-небудзь добрае. А на трэцім, калі так можна сказаць, месцы — Бацькаўшчына.

**— Чым Вы цікавіцеся ў сферы культуры?**

— Я люблю "Бітлз", "Пінк Флойд", Фрэдзі Мерк'юры. А ўвогуле аддаю перавагу інструментальнай музыцы. Паколькі сам спрабую пісаць вершы, вельмі крытычна стаўлюся да тэкстаў сучаснай папсы. З літаратуры падабаецца фантастыка, добрыя дэтэктывы і гістарычныя творы. На жаль, зараз на чытанне не заўсёды хапае часу.

**— Якія якасьці цэніце ў людзей?**

— Мабыць, у першую чаргу шчырасць. Вельмі не люблю, калі чалавек імкнецца падацца не такім, які ён ёсць на самой справе. Дарэчы, мы ўсе час ад часу надзяваем маскі, але іх не павінна быць ужо занадта многа.

**— А чаго не прымаеце?**

— Не прымаю непавагі да чалавека.

**— Ці ёсць у Вас нейкі ідэал палітыка?**

— У дзяцінстве для мяне кумірам быў Ульянаў. І, дзякуй Богу, што ён быў развенчаны, калі я ўжо стаў дарослым. Таму трагедыі не было. А ўвогуле да ўсяго імкнуся даходзіць, зыходзячы са свайго досведу. На сёння ідэала абсалютнага няма. Магчыма (смяецца), я сам ім і стану.

**— Ваша жыццёвае крэда?**

— Што тычыцца палітыкі, — "Калі не я, то хто?" Мне б не хацелася думаць, што толькі ўнукі змогуць жыць прыстойна. Часта згадваю "memento mori" — помні о смерці. І таму ў жыцці абапіраюся на просты дэвіз: "Рабі людзям дабро".

**P.S. Калі размова зайшла аб чалавечай удзячнасці, у Валадара нарадзілася цікавая асацыяцыя. "Я кінуўся на сцяну, усведамляючы, што за мной вялікая маса людзей. І непасрэдна перад самой сцяной я мусіў азірнуцца і раптам заўважыў, што я адзін. І калі я ўдарыўся ілбом і адкінула мяне сцяна, то гэтая маса яшчэ па мне і прайшлася. І я прыйшоў да высновы, што ахвяраваць для людзей не варта. Для Бацькаўшчыны — можна і трэба. Хаця ў выніку атрымліваецца, што гэта ўсё роўна для людзей".**

**З жалем ці з радасцю — так і не зразумела — падумалася мне, што ў яго яшчэ ёсць час ахвяраваць, яму толькі 35. А дарога да Беларусі толькі пачалася...**

**Саша ГЖЭЛЬСКАЯ.**

# Акцыя пад назвай "Одобрямс"

*Ад рэдакцыі: Артыкул, які вы зараз прачытаеце, не ёсць паказчык нашага ўдзелу ў кампаніі "всенародного обсуждения". Мы ўжо паведамлялі на гэты конт, што ўпершыню згодныя з нашым прэзідэнтам: всенародное обсуждение — это нонсенс. Але мы не адмаўляемся ад удзелу ў абмеркаванні таго, як праходзіць гэтае "обсуждение". Паведамляйце ў газету на гэты конт свае факты і назіранні. А адкрывае тэму журналіст.*

Прэзідэнцкія (а такімі ёсць зараз амаль усе дзяржаўныя) газеты ды электронныя СМІ аж заходзяцца ў экстазе, абмяркоўваючы апошняе дасягненне "интеграции" двух братніх славянскіх народаў — Устав Союза Беларусі і Расіі. Рабочыя і калгаснікі, творчая і нятворчая інтэлігенцыя, розных рангаў начальства ў адзіным парыве выказваюць як мінімум цёплую, а часцей гарачую падтрымку працэсу збліжэння і братэрства краінаў. Ва ўсякім разе складваецца такое ўражанне. Але за кулісамі "обсуждения" можна ўбачыць зусім іншае.

У калектывах гэтыя "документы" абмяркоўваюць прымусова і па падрыхтаванаму сцэнару. Асноўныя дакладчыкі ўзброены метадычнымі матэрыяламі, спецыяльна падрыхтаванымі ў прэзідэнцкай канцыпярыі: як "разбіваць" правакацыйную прапаганду, як адказваць на непрыемныя пытанні і г.д. Вядома, што ўсё пачынаецца з 100%-га ахопу працуючых. Гэта асабліва проста зрабіць у школах, настаўнікі народ дысцыплінаваны, пераважна "жаночы". Ды і быць супраць рызыкне з іх далёка не кожная: работа, сям'я. Хаця мне знаёмы школьны сход, на якім прыкладна палова прысутных выказалася аб уз'яднанні даволі халаднавата. У пратаколе ж было запісана: "Устав поддержали единогласно". Галасавалі, магчыма, і сапраўды "единогласно" (трэба мець мужнасць, каб узняць руку супраць, а такой фармулёўкай як "хто ўстрымаўся" вядучы сходу наогул не карыстаўся).

Праўда, не ўсе і крывадушнічаюць, калі ўзнімаюць рукі "за". Многія шчыра спадзяюцца на аб'яднаўчы рай. Мушу іх расчараваць: раю не будзе. Расія мае наконт Беларусі выключна "стратегические интересы", і ніякія іншыя. А ў такіх выпадках пра людзей ніхто і ніколі не думае. Так што нам трэба нарэшце гэта зразумець і пачаць самім будаваць незалежную і заможную Беларускую дзяржаву. Не губляючы часу, які так шчодра і безадказна марнуем не першы год на "інтэграцыйныя" фантазіі. А час, як сказаў паэт Юры Гумянюк, "мінае ў бессэнсоўнай тузаніне..." І нават не час, а самое жыццё.

**Юрась ПІВУНОЎ.**

ЖЫЦЦЁ ПА ДЭКРЭТУ

# Если вдуматься в дело...

**Впервые в Могилеве суд отклонил милицейские обвинения, основанные на президентском декрете N 5.**

Это редкое и, прямо скажем, неожиданное в наше время событие произошло в Ленинском райсуде, где судья Ефремов А.П. рассмотрел 23 апреля "дело" в отношении учащегося Могилевского училища культуры Дениса Новикова. Он был задержан милиционером А.Царевым, когда расклеивал плакаты-вырезки из газеты "Свабода" с "крамольной" надписью "Хочаш ведаць праўду? Выпісвай газету "Свабода", а также афиши, извещавшие могилевчан о предстоящем в городе рок-фестивале (в последующем, правда, запрещенном властями).

Целых три милиционера-"бдительный" А.Царёв, В.Яблонский (автор неточного протокола о задержании) и В.Погорелов, не помнивший точно, у этого задержанного молодого человека, или у другого им была изъята листовка под заголовком "Раздавим фашистскую гадину" —давали путаные показания в суде, забросив в этот день непосредственную службу по охране общественного порядка. Но подготовились плохо, были не в ударе — судью не убедили. И тот освободил Д.Новикова и дело прекратил. Декрет N 5, на который ссылались и на который надеялись милиционеры, не сработал, оказался на этот раз "невостребованным". Стоило только судье А.П.Ефремову вдуматься в дело, а не отнестись к слушанию формально, как все стало очевидно — никакого преступления нет! А если не вдумываться, как это делают другие судьи — декрет все позволяет. На это он и расчитан. Но, как видим, все и всегда зависит от человека при должности. И если бы все судьи - и у нас, и в Минске, и в других городах — исполняли долг и закон, то декрет остался бы тем, чем он и является: юридическим недоразумением, плодом воспаленного воображения людей, которые случайно оказались во власти. Поэтому воспринимают ее как вседозволенность. В то время как власть — это ответственность и даже осторожность. Эти качества и проявил судья Ефремов А.П.

**Собственная информация.**

# Адзінства формы і зместу

На пачатку 90-х гадоў было, як вядома, распачата фундаментальнае шматтомнае выданне "Энцыклапедыя гісторыі Беларусі". Духоўна ўзброіліся, па-чалавечы ўзрадаваліся навукоўцы і выкладчыкі, студэнты і вучні, свядомыя грамадзяне — ўсе, каго хвалююць і цікавяць праблемы нацыянальнага Адраджэння. Нарэшце, пасля дзесяцігоддзяў панавання ў навуцы камуністычнай ідэалогіі, з'явілася сумленная крыніца сістэматычных гістарычных ведаў аб роднай дзяржаве ад старадаўніх да нашых дзён...

Радасць была нядоўгай. З прыходам "на прэзідэнцтва" Лукашэнкі "павярнуць назад" было загадана не толькі надоям, суботнікам, сацыялістычнаму спаборніцтву і таварысцкім судам, сцягу і гербу, мове (ад дзяржаўнай да аматарскай), але і ПРАЎДЗЕ аб тым, што была і што ёсць БЕЛАРУСЬ.

Пільная цэнзура, падабраная "гісторыкам і аграномам" выключна з "пятай калоны", з ахвотай і задавальненнем узялася за сваю любімую і адзіную ў жыцці справу —знішчаць ІСЦІНУ. Цяпер безсаромнаму і тупому вынішчэнню са свядомасці людзей падлягае ўсё, што не адпавядае прэзідэнцкім поглядам на сваю ж(?) краіну. Гэтыя погляды былі неаднойчы заяўлены і абвешчаны. І неаднойчы дзікунствам сваім і неадукаванасцю ставілі ў тупік і "лишали дара речи" нават лаяльных да прэзідэнта, але хаця б крыху нармальна адукаваных людзей. Ну, напрыклад, можна нагадаць меркаванне аб гістарычным нацыянальным гербе — *"мужык на кане"*, альбо аб мове народа — *"на белорусском нельзя сказать ничего великого..."* і г.д. Як давесці такому ўладальніку двух дыпломаў аб вышэйшай адукацыі, што шматвекавая гісторыя Беларусі — цяжкая, няпростая, але вялікая і высокая —вышэй за любыя ягоныя абразы, за любое невуцтва і цемрашальства. Што яна выклікае гордасць і павагу. Што яна сама па сабе гартуе нашчадкаў да блізкай і канчатковай перамогі. Дабра над Злом, Бога над Д'яблам, над здраднікамі і недобразычліўцамі.

Гэтага і палохаецца наш "праваслаўны атэіст". Адсюль усе ягоныя загады: назад, назад, назад! І вось ужо на вокладцы трэцяга тома "Энцыклапедыі" няма Пагоні (глядзі здымак). Але няма ў ім, як паведаміла газета "Наша Ніва", і артыкула прафесара У.Конана "Гісторыя культуры". Гэты навуковы і глыбокі артыкул сведчыць, што культура Белаусі не частка расійскай, не малодшая дачка яе, а самастойнае і вялікае праяўленне народнага духа і таленту, самабытнага і самастойнага шляху народа праз вякі. Артыкул напісаны для нас, для людзей. А трэці том выдадзены, відаць, ужо для прэзідэнта — тут змест няважны, тут галоўнае форма. Форма, у якую зацiснулі гісторыю Беларусі



савецкія "гісторыкі", прафесары і доктары прапаганды і агітацыі. Гісторыя, як бачаць яе такія спецыялісты, складаецца не з фактаў, а з іх "правільнага" падбору ў тым кірунку, які падабаецца цяперашняму прэзідэнту. Кірунак гэты з праўдай і навуковасцю не мае нічога агульнага.

Амаль перакананы, што наступны том выдання будзе ўжо ўпрыгожваць прэзідэнцкі савецкі герб. Адпаведна яму будзе "прычэсвацца" і змест выдання, якое ў такім разе толькі па недарэчнасці будзе працягваць называцца Энцыклапедыяй.

Г.С.

# Диктатура: могилевская хроника событий и фактов за 1996 г.

***В четвертом номере нашей газеты мы опубликовали подготовленную редакцией ХРОНИКУ минских событий и фактов, которая началась в ночь на 12 апреля 1995 г. акцией насилия в зале Верховного Совета над депутатами от оппозиции БНФ, протестовавших против задуманного коммунистическим большинством парламента референдума "о языках, новой символике и интеграции с Россией".***

***Тогда же мы выразили готовность опубликовать могилевскую хронику, зная, что ее фиксирует местная организация Белорусского Хельсинкского Комитета, которую возглавляет Валерий Сивуха. Передавая нам материал, он заметил, что над хроникой 1997 года комитет еще работает, поскольку в этом году проявления диктатуры на местном уровне по своей широте, "неревности" и жестокости не уступают столичным. Материалов много, факты нарушений прав человека еще требуют систематизации и изложения. Мы договорились, что опубликуем их позднее, возможно, "по итогам" пяти месяцев. А сегодня предлагаем вам хронику-96.***

**29 марта.** Горисполком под вздорным предлогом "...поскольку Богданкевич С.А. не избирался по г. Могилеву депутатом Верховного Совета" запретил встречи председателя Объединенной гражданской партии с жителями города. Могилевская областная организация ОГП пыталась обжаловать решение горисполкома, но суд даже не принял исковое заявление.

**В конце апреля.** Демократические организации подали заявку на участие в официальном митинге, посвященном празднику 1 мая. По пути следования на митинг представители демократических организаций неоднократно задерживались и обыскивались милицией и ОМОНом. У некоторых из них были незаконно отобраны листовки, плакаты и символика Свободных профсоюзов Беларуси, зарегистрированная в установленном порядке. При этом не составлялось протоколов изъятия, не было понятых, работники правоохранительных органов не представлялись. На митинге никому из демократов власти не предоставили слова. Во время митинга милицией были задержаны 10 активистов демократических организаций, среди них — два депутата горсовета (А.Сердюков, Т.Камозин). На соответствующие письменные жалобы граждан прокуратура Центрального района г. Могилева и областное УВД отреагировали отписками, а председателя Могилевской организации Свободного профсоюза С.В.Ободовского вскоре незаконно оштрафовали на 500 тыс. рублей "за организацию несанкционированного митинга" (судья Гуринович Л.Г.).

**29 мая.** Председатель горисполкома Сивицкий Д.А. издал распоряжение N 508-р, согласно которому руководители предприятий и организаций любых форм собственности должны согласовывать проведение собраний с горисполкомом, что явилось грубым нарушением "Положения о порядке проведения собраний, митингов и демонстраций", которое регламентирует проведение акций только в общественных местах и помещениях.

**14 июня.** Еще одним решением горисполкома N 5-11 в г. Могилеве запрещены демонстрации. Согласно этому решению, местом для их проведения выбрана окраина города — площадка перед ДК им. Куйбышева. Но на окраине, в малолюдном месте, еще можно провести митинг или собрание, но никак не демонстрацию. (В то же время по Конституции граждане, как известно, имеют право на демонстрации). Тем же решением пикеты совершенно произвольно приравнены к демонстрациям. Причем под понятие "пикетирования" городские власти подвели любые открытые мероприятия по распространению печатной, а в ряде случаев — и устной информации.

**6-15 июня.** Председатель профсоюзной организации от Свободных профсоюзов Беларуси С.В.Иванов не допускался на территорию молочного комбината, что явилось грубым нарушением закона РБ "О профсоюзах". Иванов вынужден был провести с 6 по 15 июня голодовку протеста. Во время голодовки он трижды задерживался милицией (6-го, 7-го и 13-го), и на него составлялись надуманные протоколы — "за нарушение санитарной зоны молкомбината" и за то, "что Иванов отвлекает рабочих и у них понизилась производительность труда". Протоколы были настолько абсурдными, что "народный" суд Октябрьского района не смог вынести по ним никакого решения.

**14 июня.** Горисполком в лице зам. председателя Цумарова В.М. по незаконным, фактически цензурным основаниям, запретил проведение республиканского рок-фестиваля в рамках международного фестиваля духовной музыки "Магутны Божа", несмотря на заранее утвержденную программу.

**19 июля.** Активисты Могилевского городского клуба избирателей были незаконно задержаны за распространение брошюр "Путь в никуда", посвященных двум годам президентства Лукашенко А.Г. Впоследствии они были оштрафованы: В.И.Сивуха — на 300 тыс. руб., В.И.Цурпанов — на 100 тыс. руб., О.В.Сюткин — на 100 тыс. руб., В.К.Череухин — на 100 тыс. руб. Во время проведения городским клубом избирателей акции, посвященной двухлетию президентства Лукашенко А.Г., группа неизвестных (предположительно оперативники КГБ или МВД в штатском) схватила С.В.Иванова и Ю.В.Новикова, которые в акции не участвовали, а находились неподалеку, снимая происходящее на фотопленку. Их грубо запихнули в автомобиль "Жигули", отвезли в Центральный РОВД, достали из фотоаппарата пленку и засветили ее. Никто из "гражданских" участников насилия не представился. Протоколов изъятия и административного правонарушения не составлялось.

**14 августа.** Председатель Могилевского клуба избирателей В.И.Сивуха был оштрафован судом Центрального района на 400 тыс. руб. за распространение шутливой "Анкеты члена ЦРУ" и комичного удостоверения "Агента ЦРУ". Суд посчитал, что их содержание наносит ущерб общественному порядку, хотя тексты в обоих "документах" просто довели до логического конца высказанные президентом на этот счет обвинения демократам.

**14 сентября.** Милиция задержала Алеся Буракова. Суд Ленинского района приговорил его к 7 суткам лишения свободы за то, что "он расписывал стены домов надписями "Луку за краты". Доказано это в суде не было.

**19 октября.** В Комсомольском сквере города милиция задержала В.Лапцевича, распространявшего текст "Всеобщей декларации прав человека", которая принята Генеральной Ассамблеей ООН в 1948 г. и ратифицирована Республикой Беларусь в 1991 г. Экземпляры Декларации были изъяты. В протоколе изъятия отмечалось, что "содержание текстов направлено на причинение ущерба государственному и общественному порядку, правам и законным интересам граждан". Работник Представительства ООН в республике, когда увидел копию протокола изъятия, растерянно заявил, что это слишком даже для Беларуси.

**25 октября.** Суд Центрального р-на г. Могилева (судья Мартынова С. А.) незаконно аштрафовал на 250000 рублей С. В. Ободовского за организацию "несанкционированного собрания".

**27 ноября.** Электрослесарь Межисетской птицефабрики В.Г.Орешков был незаконно оштрафован административной комиссией Могилевского райисполкома на 200 тыс. руб. "за распространение листовок".

**3 декабря.** Мастер АО "Лента" Е.А.Побасенко был оштрафован административной комиссией Ленинского района на 500 тыс. руб. за распространение листовок с изображением голосующих обезьян и надписью "Сначала подумай, потом голосуй". Комиссия усмотрела в этом "оскорбление белорусского народа".

**P.S. Продолжение следует.**

# "Свае" і "чужыя"

***Ад рэдактара: Шчыра сказаць, у мяне былі сумленні наконт друкавання гэтага артыкула. Усё-такі перыяд больш за дзесяць гадоў, калі я быў звязаны з калектывам і арганізацыяй, аб якіх ідзе тут гаворка, аднošу да самых шчаслівых у сваім жыцці. Ну, а новы час —гэта і новы стыль, пра які судзіць збоку не заўсёды прыстойна.***

***Але перачытаўшы двойчы ці больш гэты артыкул, дасланы аўтарам па сваёй, як кажуць, волі, а не па заказу, упэўніўся, што тэма яго разважанняў не асабістая крыўда супрацоўніка, які не "прыйшоўся да двара", а тая, пра якую прафесіянал не можа не думаць: журналістыка і грамадства.***

***Хвалюе гэтая тэма і мяне. Пастаянна "вісела" гэта над журналістыкай —быць "абслугай" тых, у каго ўлада, або быць "аб'ектыўным люстрам" грамадства. Не заўсёды ўдавалася ўтрымлівацца на прынцыпова-прафесійнай пазіцыі і мне, і аўтару артыкула. Але такой дружнай, масавай, добраахвотнай і ледзь не радаснай "здачы" сваёй прафесіі, якая назіраецца сёння, не было яшчэ зусім нядаўна. І гэта небяспечна. Пра гэта гаворка.***

Галоўны камандуючы наступу ў рэспубліцы на ранейшыя (праўда, вельмі кволыя) дэмакратычныя заваёвы, на асноўныя правы і свабоды грамадзян даўно ўжо, як вядома, гатовы жыўцом з'есці асобных расійскіх журналістаў. Гэта і зразумела. У большасці выпадкаў нашы талерантныя суграмадзяне не-не, дый атрымліваюць глыток праўды аб падзеях у шматпакутнай Беларусі менавіта праз СМІ суседняй дзяржавы, асабліва праз найбольш даступныя — электронныя.

Следам за ім заўсёды паслужлівая газета "Советская Белоруссия" у адным са сваіх нядаўніх нумароў у чарговы раз выступіла ў няўдзячнай ролі падбрэхіча. У асобе нейкай Жаны Серабранскай быў зроблены славеснаняўтрымны залп па расійскіх тэлеаўтарытэтах Кісялёву, Дарэнку і Чаркізаву.

Ды годзе вам, пані Серабранская! Ці ж вы не разумееце, што высілкі вашы — усяго-наўсяго дзіцячыя практыкаванні на зададзеную "бацькам" тэму? І ці не высакародней было б ад парушынкі ў тэлевоку расіян звярнуцца да ўласнага бервяна нацыянальнага кіселебачання. Згадзіцеся, як раз менавіта тут і маецца нагода для сур'ёзных развагу. І асабліва што тычыцца рэгіянальных падраздзяленняў на вачах пракіслага "кіселю". Хоць бы, скажам, той жа Магілёўскай тэлестудыі.

"Прафесіяналізм, аб'ектыўнасць, сумленнасць, прыстойнасць — вось крытэрыі, што адгэтуль грунтоўна ўсталююцца на беларускім радыё і тэлебачанні". Калі не слова ў слова, дык па сэнсе так выказаў сваё крэда Рыгор Кісель падчас яго прадстаўлення прэзідэнтам у жніўні 1994 года калектыву нацыянальнай тэлерадыёкампаніі ў якасці новага яе кіраўніка. Ды ой, як ці то блюзнерыў тады ці хітраваў, як паказаў час, Рыгор Леанідавіч. Не сакрэт жа, што ўжо ў першыя месяцы ягонага ўвацарэння ў эфіры на БТ было звольнена больш 200 найбольш высокапрафесійных рэдактараў, рэжысёраў, іншых спецыялістаў. Пазней гэты "працэс, што пайшоў", дакаціўся, як то кажуць, да самых да ўскраін і ўшчыльную ахапіў абласныя тэлерадыёаб'яднанні. Замест бесцырымонна патураных майстроў сваёй справы тэрмінова абнаўляліся на лісліўцаў і падліз, выхоўвалі паслухмянікаў і ідэалагічна замбіраваных зімоўскіх ды хрушчовых. Вось такі ён —прафесіяналізм па-кіселеўску, а дакладней — па-прэзідэнцку. Што ж тычыцца аб'ектыўнасці і іншых асновапалагальных прынцыпаў кіселебачання, дык мы маем штодзённую магчымасць іх чуць і бачыць. Пры жаданні, зразумела. Ды толькі вось такога жадання чамусьці ў людзей няма, таму і пераключаюць яны свае тэлепрыёмнікі на Маскву.

Сёння, упярэдадзень прафесійных святаў работнікаў друку і электронных сродкаў масавай інфармацыі, прыкра ўсведамляць, што з усталяваннем інстытута прэзідэнцтва ў нашай рэспубліцы адбыўся падзел журналістаў на "сваіх" і "чужых", на "нячэсных" і тых, хто прыкладваецца гаспадару не толькі да спіны, а і, даруйце, да прычыннага месца. Апошняе асабліва стасуецца да нацыянальнага радыё і тэлебачання. Гэта яны найперш у немалой ступені садзейнічалі дзяржаўнаму перавароту, што ціхай сапай адбыўся пад выглядам леташняга лістападаўскага рэферэндуму. (Не забывайма, што ў яго выніку бессаромна ліквідаваны заканадаўчая і судовая ўлады, адбылася ўзурпацыя ўлады, якая цяпер сканцэнтравана ў руках толькі аднаго чалавека — гэта значыць, фактычна ў нас зараз усталяваны дыктатарскі рэжым). Гэта нацыянальнае радыё і тэлебачанне з гадзіны ў гадзіну настойліва атручваюць нашу свядомасць, прывучаюць заплюшчваць вочы на суровыя рэаліі цяперашняга жыцця, адвучваюць нас ад самастойнасці думкі і аналізу. Гэта яны ўкараняюць у нашы "неразумныя" галовы ідэю-фікс, што ў рэспубліцы можа быць выключна адна думка —прэзідэнцкая, а ўсе астатнія памылковыя, "няправільныя". Гэта яны, нарэшце, ганяць і бэсцяць усіх, хто падае голас у абарону дэмакратыі. Асабліва дастаецца ўдзельнікам мітынгаў і шэсцяў у Мінску. Яны заўсёды з брудам змешваюцца. Затое як шкадуецца ў кіселэфіры наша "бедная і слаўная" міліцыя. Але яшчэ Ленін, хаця да яго асобы можна ставіцца па-рознаму, пісаў, што лад, пры якім паліцэйскі атрымлівае больш настаўніка (у нас настаўнік зарабляе ўдвая-утрая менш міліцыянта), з'яўляецца паліцэйскім дзяржаўным ладам.

Такому ладу, вядома, патрэбны паслухмяныя і адданыя служкі, у тым ліку і "свае" журналісты. Прэзідэнт на іх, як і на сілавыя ведамствы, пры бюджэтнай нішчымніцы не шкадуе ні грошай, ні іншых даброт.

Вось адзін з прыкладаў таго.

Кісялёўская "мяцёлка" пазбавілася прафесіяналаў не толькі на БТ. Яна сягнула і да абласных тэлерадыёаб'яднанняў. Ва ўсіх іх у першую чаргу былі заменены кіраўнікі. Зразумела, і ў Магілёве. І несумненна хітраваў пан Кісель, калі ў лістападзе 1994 года прадстаўляў калектыву тутэйшага аб'яднання ў якасці ягонага новага кіраўніка нейкага Ягора Рыбакова. І прафесіянал ён, маўляў, і публіцыст вунь які, і ўзор сумленнасці, прыстойнасці, і г.д. і да т.п. Ды што, маўляў, казаць, вы ж яго ведаеце...

Так, мясцовыя радыйцы і тэлевізійшчыкі Ягора крыху ведалі. Як-ніяк, а гэты 23-гадовы дзяцюк толькі што завочна адолеў Магілёўскі педінстытут. Колькі часу падпрацоўваў на абласным радыё, затым уладкаваўся ў прэс-службу гарвыканкама. Трапіў да Кісяля ў створаную газету "Магілёўскія ведамасці", стаў удзячным падручным у свайго шэфа. Падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі газета зрабілася ў вобласці лукашэнкаўскім рупарам. Прэзідэнт аб гэтым, зразумела, потым не забыў. Пасля сваёй перамогі ён Кісяля ўзнагародзіў цяперашнім ягоным службовым становішчам, а Рыбакова прытуліў у сваёй адміністрацыі. Дзякуючы гэтаму Ягору ўдалося ўхіліцца пасля вучэбнай адтэрміноўкі ад службы ў арміі. Ды вось навала: працуючы ў адміністрацыі прэзідэнта, хлапец "засвяціўся" па не зусім цвярозай справе за рулём аўтамашыны. Даішнікі "засеклі". Справу, як гэта зараз робіцца "для сваіх", спусцілі на тармазах. Аднак давялося развітацца з Мінскам і вяртацца ў горад на Дняпры. На кані, праўда.

Такі вось службовы спіс у чалавека. (Ці толькі ў аднаго яго з прэзідэнцкай раці?) Такія вось, як гаварылі раней, падбор і расстаноўка "прафесіянальных, аб'ектыўных, сумленных і прыстойных" кадраў.

Калектыў, вядома, гэта ведаў.

Але яго ні пра што не пыталі. І вось зараз мы на абласным тэлеэкране бачым тое, што бачым; тое, што глядзець неахвота і нецікава. У горшым варыянце паўтараецца сітуацыя, што склалася і на БТ. Вось ужо сапраўды: не пазайздросціш без віны вінаватаму калектыву.

Ды, мусіць, Рыбакову ўсё гэта, як той казаў, да аднаго месца. Абы самому было ўтульна пад прэзідэнцка-кісялёўскім крылом. Ён пры выпадку зазначае: мяне, маўляў, на пасаду прызначыў Кісель, а таго — сам прэзідэнт, так што, маўляў, самі рабіце высновы...

Гэта дае яму грунт абыходзіцца з творчым калектывам па-панску, па-хамску, калі прыніжаецца чалавечая годнасць, глушыцца ўсякая ініцыятыва і самастойнасць думкі. Пагроза звальнення, запалохванне, знявага, зацкаванасць і зацюканасць — усё гэта, бы дамоклаў меч, штодзень вісіць над калектывам. Тут ужо не да творчых пошукаў, а з'яўляецца жаданне — характэрнае, мабыць, увогуле для грамадства цяперашніх дзён — неяк прыстасавацца, перасядзець, пражыць складаны час.

Гэта ж дае яму падставу і для асабістай беспакаранай вольніцы. Так, знаходзячыся за рулём, размалаціў адну службовую "Волгу" — у мірг вока атрымаў новую. Захацелася пазбавіцца бацькоўскага прыгляду — аблвыканкам (ці не па распараджэнні зверху?) выдзеліў сродкі на куплю ўласнай кватэры: "халасцяцкай", двухпакаёвай. Карацей кажучы, нават нейкай дробнай прэзідэнцкай сошцы ніштавата сабе пачуваецца пры цяперашнім жыцці-быцці. У адрозненне, канешне, ад асноўнай масы насельніцтва. А як жа: "бацька" сваіх у крыўду не дасць. Яны — яго апірышча і надзея.

Аб гэтым, мабыць, трэба найперш гаварыць, паважаная пані Серабранская з газеты "Советская Белоруссия". Навошта ж марна шукаць парушынку ў чужым воку, калі ва ўласным пагрозліва бервяно павісла. І як бы яно, тое нацыянальнае бервяно, усіх нас не раструшчыла. А да гэтага не так ужо і далёка. З кожным нашым дагаджаннем, маўчаннем, несупраціўленнем — усё бліжэй...

**Максім Кастрыца.**

## ПА СТАРОНКАХ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖНАГА ДРУКУ

*У Польшчы, непадалёк ад мяжы з Беларуссю, ёсць такі край —Беласточчына. Там здаўна жывуць беларусы, якія складаюць значную частку насельніцтва. У сённяшняй дэмакратычнай польскай краіне яе грамадзяне беларускага паходжання не толькі не страцілі свае карані і мову, але цалкам наадварот — адносяцца да іх з пашанай і гонарам, прагнуць яшчэ больш плённага жыцця на падмурку багатай культурнай традыцыі. У той час, калі на Бацькаўшчыне знішчаюцца ўсялякія парасткі нацыянальнай адметнасці і самасвядомасці, нашы браты з блізкага замежжа, магчыма, усведамляючы лепш за многіх з нас глыбокі сэнс і неабходнасць не "растварыцца" ў іншых народах, жывуць менавіта ўласнымі праблемамі.*

*Вядома, не ўсё задуманае атрымліваецца адразу і паспяхова. Аб гэтым сведчаць і артыкулы з газеты "Ніва" — тыднёвіка беларусаў у Польшчы, які выдаецца ў Беластоку. Дзякуючы сяброўскім стасункам магілёўскіх дзеячоў са Свабодных прафсаюзаў з тамтэйшымі дэмакратамі рэдакцыя атрымала некалькі нумароў "Нівы". У іх мы знайшлі розныя меркаванні наконт апошніх падзей у Беларусі, багата інфармацыі аб справах мясцовых беларускіх арганізацый культурна-асветніцкага і грамадска-палітычнага накірункаў, гістарычныя ўспаміны, сучасную паэзію і пераклады, вялікую старонку для дзетак "Зорка", гумар і шмат іншага. Не было там, бадай, толькі аднаго: абыякавасці да свайго лёсу і разгубленасці перад будучыняй. Адзначым, што "Ніва" выходзіць ужо 42-гі год.*

*Сёння мы вырашылі пазнаёміць вас са зместам ліста, апублікаванага ў газеце напачатку бягучага года. Думаецца, што гэтая своеасаблівая падборка мінулагодніх "здарэнняў" у жыцці беларускай дыяспары выклікае цікавасць ці, нават, зайздрасць нашых чытачоў.*

## Прайшоў год

Завяршыўся 1996 год. Якім ён быў для беларускага асяроддзя ў Польшчы? Па-мойму, можна яго ацаніць станоўча. На палітычнай дзялянцы варта адзначыць ваяводскую ўрачыстасць адкрыцця Пачатковай школы ў Кляшчэлях, у якой удзельнічалі прэм'ер-міністры Польшчы і Беларусі. Прэм'ер Уладзімеж Цімашэвіч быў таксама госцем святкавання 130-годдзя дзейнасці гурткоў вясковых гаспадынь у Нараўцы. Урэшце В.Цімашэвіч, Дарыюш Расаці і Веслаў Качмарак былі неафіцыйнымі гасцямі на народным фэсце ў Міхалове.

У мінулым годзе з'явіліся новыя часопісы, якія апісваюць нашу беларускую сітуацыю, напрыклад "Gazeta Hajnowska". У Беластоку дзейнічае польска-беларускае прадшколле, штораз часцей адбываюцца сустрэчы "Зоркі", у ходзе якіх найбольш актыўныя дзеці і моладзь абучаюцца ў галінах нацыянальнай культуры і журналістыкі. Адзначыць трэба аднаўленне дзейнасці БАС (Беларускае Аб'яднанне Студэнтаў — ТМ) у Варшаве. Праводзяцца цыклічныя мерапрыемствы, ладжаныя Беларускім грамадска-культурным таварыствам, адбываюцца чарговыя "Басовішчы" ў Гарадку і "Бардаўскія восені" ў Бельску-Падляшскім, вандруюць студэнцкі рэйд "Сцяна" і тэатр "Жывое слова".

Летась выйшаў першы сучасны падручнік па беларускай мове для III класа пачатковай школы аўтарства Тамары Русачык. Штораз большае прызнанне ў краіне і ў замежжы заваёўвае мастак Лявон Тарасэвіч, які падкрэслівае свае беларускія карані — стаў ён выкладчыкам Акадэміі мастацтваў. Вылучэнне ў маштабе краіны атрымаў праект Дарафея Фіёніка і Яўгена Вапы "Бельск-Падляшскі — сэрца памежжа" ў трэцім выпуску арганізаванага Фондам культуры конкурсу пад лозунгам "Малыя айчыны — традыцыя для будучыні".

На літаратурным палетку трэба адзначыць, што мінулагодні юбіляр Сакрат Яновіч быў узнагароджаны Крыжам Кавалерскім Ордэна Адраджэння Польшчы. На кніжных паліцах з'явіўся чарговы паэтычны зборнік Яна Чыквіна, а прафесар Ян Тарпіла назваў аўтара "беларускім Міцкевічам".

У маім — беларуса — асабістым жыцці таксама здарылася многа добрага. Пашанцавала мне сустрэцца з актыўнымі людзьмі з беларускага асяроддзя. Стаў я працаваць у Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы...

**СЛАВАМІР КУЛІК.**

## Магілёўскі "Бедлам"



***Ужо колькі год існуе ў Магілёве гурт "БЕДЛАМ". Але ж назва не кажа за музыкаў гурта і не датычыцца ўмення граць. Афіцыйны склад гурта пачаў існаваць з 1995 года, калі ў Магілёве праходзіў канцэрт цяжкага року. Яшчэ тады гэты калектыў паказаў сябе добрым рокавым гуртом. Але ж да гэтага часу яны не маюць свайго якаснага запісу. Тыднёвік пабываў у гасцях у "БЕДЛАМА", у памяшканні дзе яны рэпетыруюць. На гэты момант у гурце граюць тры музыкі: Алесь Бурак — ударныя; Алесь Каралёў — спеў, гітара, Сяржук Краўцоў — бас.***

Гаворка нашага карэспандэнта з хлопцамі-музыкамі (гэта былі абодва Алесі) пачалася, вядома, з высвятлення паходжання такой нязвыклай назвы для сцэнічнага калектыву. Аказалася, что ніякага "глыбіннага" сэнсу пры выбары назвы хлопцы не шукалі. Неяк само сабой узнікла слова "Бедлам" і замацавалася за гуртам, тым больш, что асноўны музычны напрамак у яго — метал. Хаця граюць і спяваюць свае песні хлопцы ў тым стылі, які дыктуецца словамі і музыкай канкрэтнага твора. Найбольшую ўвагу, праўда, яны надаюць рок-баладам. Якія не маладыя музыканты, але цягне іх не да эстрадных "аднадзёнак", а да стварэння твораў с філасофскім зместам. Цяпер яны рыхтуюць да запісу свой першы альбом.

— Так гэта сапраўды надало нам нейкай моцы каб ісці далей, бо без падтрымкі гэта было б цяжка.

Вось такі цікавы гурт існуе ў Магілёве. На жаль трэцяга музыкі не было на той час, але, як паведамілі абодва Алесі, басіст грае ў некалькіх гуртах, чым і ганарыцца. Бо ў розных гуртах ён набывае вопыт і становіцца больш моцным у сваёй справе.

Сапраўды, гэтаму гурту можна пазайздросціць. У наш складаны час яны змаглі пераадолець цяжкасці і стаць на трывалую глебу. На жаль, улады мала надаюць увагі такім вось маладым талентам, у якіх сапраўды ёсць жаданне граць і несці свае пачуцці ды перажыванні ў сваёй музыцы. Хаця некаторым яна здаецца не вельмі добрай. Але ж не трэба меркаваць толькі са свайго пункту гледжання, трэба ставіцца і на месца той моладзі, якая ўсё ж паважае менавіта такую музыку.

**Дзяніс НОВІКАЎ.**

## НАС ЗАЎВАЖЫЛІ І Ў ДАЛЕЧЫНІ

Дзень добры, паважанае спадарства!

Вось ужо колькі тыдняў зь вялікаю прыемнасьцю разгортваю кожны нумар "Тыднёвіка Магілёўскага". Вельмі мяне цешыць, што ў нашым Магілёве пачало выходзіць гэткае незалежнае выданьне. Але, мне здаецца, у газэце зашмат расейскае мовы. Навошта беларусам мова маскалёў? Хіба ў нас, беларусаў, няма ўласнае мовы, — беларускае? Ад расейскае мовы наадварот трэба пазбаўляцца як мага хутчэй, а не прапагандаваць ды шырыць яе праз свой жа беларускі незалежны друк. Асабліва цяпер, калі на нашай Беларусі душыцца й нішчыцца ўсё беларускае. Я ўпэўнены, што калі "Тыднёвік" поўнасьцю пяройдзе на родную мову, а гэта трэба было зрабіць ад першых нумароў, ён ня стане чытацца горш. Думаю, такое ж думкі прытрымліваецца й пераважная большасьць чытачоў. Бо наша мова — гэта наш духоўны скарб, нашае багацьце!

Жыве поўнасьцю беларускамоўны "Тыднёвік Магілёўскі"!

Віталь БУГАЁЎ,
ваш заўсёдны чытач.

***P.S.** Разам зь лістом дасылаю Вам таксама ўлётку зь некаторай інфармацыяй пра Беларускую рэдакцыю Польскага радыё, што ў Варшаве. Думаю, каму-нікаму з чытачоў "Тыднёвіка" гэта будзе цікава. Адрас рэдакцыі ў Беларусі: 210038, Віцебск-38, п/с 5, Юрасю Корбану.*




**Беларуская рэдакцыя
Польскага Радыё**

Праграма для замежжа
00-977 Варшава
P.O. Box 46
ПОЛЬШЧА

тэл.: (+48 22) 645 93 86, 645 92 82
факс: (+48 22) 645 59 17

E-mail: maryan@radio.com.pl
http://www.radio.com.pl/piatka

**кожны дзень
на кароткіх хвалях :**

**а 14.30** - 41.18 м і 50.04 м
(адпаведныя частоты - 7285 кГц і 5995 кГц

**а 16.30** - 41.27 м і 49.22 м
(адпаведныя частоты - 7270 кГц і 6095 кГц

**а 18.30** - 41.78 м і 49.22 м
(адпаведныя частоты - 7180 кГц і 6095 кГц

**а таксама
па спадарожніку:**

**а 6.00, 10.00 ды 17.00 гадзінах**

ЭЎТЭЛЬСАТ II Ф-6 Hot Bird

13° усходняе даўжыні, частотнасьць 11.474 ГГц; гарызантальная палярызацыя, нясучая гуку (аўдыё) 7.38 МГц



## З усмешкай

Гутараць дзве сяброўкі:

— Калі я сварuся з мужам, высылаю сваіх дзяцей у парк, каб не чулі, як мы паемся.

— Цяпер разумею, чаму вашы дзеці заўсёды сядзяць у парку.

* * *

Гутараць дзве суседкі:

— Які сродак прымяняеце для чысткі дываноў?

— Мужа.

* * *

Базар у Маскве:

— Бульба чарнобыльская! Бульба чарнобыльская! — голасна расхвальвае свой тавар гандлярка.

— Хто ж ад вас гэта купіць? — здзіўляецца замежны турыст.

— А купяць, даражэнькі, купяць, хто для цешчы, хто для суседзяў...

* * *

Госць рэстарана афіцыянту:

— Кумпяк ёсць?

— Няма.

— А адбіўныя катлеты?

— Няма.

— У такім выпадку падайце мне мой плашч!

Афіцыянт пазірае на вешалку й адказвае:

— Прыкра мне, але вашага плашча таксама ўжо няма.

## Да нашых чытачоў

***Наступны нумар ТЫДНЁВІКА выйдзе 16 мая. Спадзяёмся, што нашыя чытачы да гэтага часу добра адзначаць шматдзённыя святы і выхадныя. Тых, хто адзначае бліжэйшыя "чырвоныя дні", мы віншуем. Астатнім жадаем з карысцю папрацаваць на ўласных палетках і дома, адпачыць ад "палітыкі". І, канешне, моцна засумаваць па нашай газеце, каб прагна "накінуцца" на яе праз два тыдні. Не забудзьце — наступны нумар ТЫДНЁВІКА ў газетных шапіках 16 мая. Да сустрэчы!***

## Перакладзіце на беларускую мову



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5. Истопка. 6. Несогласие. 9. Запятая. 10. Руль, кормило. 11. Ломоть. 14. Мечта. 16. Дроги. 17. Глаз. 19. Розарий. 20. Угощение. 22. Сугроб. 24. Погребок. 25. Копоть. 29. Свидетель. 30. Оладья из тёртого картофеля. 31. Жажда. 33. Пойма. 34. Белка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Табак. 2. Юноша. 3. Подсека. 4. Годовщина. 5. Известие. 7. Богатырь (фольк.). 8. Сухая корка хлеба. 12. Минутка. 13. Могильщик. 14. Сено (луговое). 15. Тяж (в телеге). 17. Сорванец. 18. Насадка. 21. Тарахтение. 23. Одобрение. 26. Сквалыга. 27. Скобление. 28. Горец (бот.) 31. Барыня. 32. Топливо.

Рэдактар Генадзь СУДНІК






Інфармацыйна-аналітычная газета, заснаваная Магілёўскай гарадской асацыяцыяй "КОЛА СЯБРОЎ".

*Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку за № 831.*

Газета выходзіць па пятніцах, пераважна на беларускай мове..





АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030 г. Магілёў,
вул. Першамайская, 6-22.

ТЭЛЕФОНЫ:
31-04-15,
22-97-82

Газета набрана і надрукавана афсетным спосабам у Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М.Свярдлова. Зак. 7. Тыраж 2100 асобнікаў. Кошт 2000 руб.